НЯДЗЕЛЯ 14 ВЕРАСЬНЯ 1919 г. Цэна 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ГОД I. ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ № 13.



Беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні.

*Вільня, 14 верасьня 1919 г.*

Нідаўна быўшая магутнай, Расея, цяпер утануўшая у хвалях бальшавіцкай анархіі, робіць патугі, каб выкарабскацца з бяды і зноў выцягівае свае прагавітыя лапы, каб узяць у абоймы і здушыць малыя народы, уваходзіўшыя раней у склад Расейскай імпэрыі.

Як аграмадны павук, яна хоча схваціць і зноў смактаць духоўную моц з сваіх „окраін". Бо дух Маскоўі, дух візантыйска-татарскі, ужо пражыў сваё жыцьцё, ужо зрабіўся трупам, гніе і сваім гнільлём заражае паветра ўвакруг сябе. Творчую сілу, як вампір, ён маніцца смактаць, як жывую кроў, з сьвежых, маладых, здаровых суседніх народаў, як гэта ўжо было праз шмат гадоў, калі адступнікі ад уласнага народа йшлі на службу да Расеі і аддавалі гэтай аджыўшай свой век культуры ўсе свае інтэльлектуальныя сілы.

Вампір-павук баіцца, каб уваскросшыя да ўласнага палітычнага жыцьця народы не зачынілі сваіх жыл, з якіх багатай крыніцай лілася кроў творчага духа.

Тулаво павука хворае, пакрыта адной вялікай ранай бальшавізма, аднак доўгія лапы час ад часу праяўляюць жыцьцёвую энэргію і канвульсыйным рухам хватаюць блізкія ахвяры.

Гэтыя тры страшныя лапы гніючай аграмадзіны — гэта: Лівэн, Калчак і Денікін. Страшныя, як галовы Гідры: адсячэш адну, вырасьце другая...

І ўсе, каму дорага заходняя культура, моральнае здароўе Эўропы, каму дорага справядлівасьць і права малых да жыцьця, пачынаюць разумець, што як га трэба будаваць дужы мур, каб адгарадзіцца ад вампіра...

Гэты мур—гэта хаўрус злучаных малых дзержаў ад Чорнага да Балтыцкага мора, хаўрус Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі,

Эстоніі і Фінляндыі, сконфэдэраваных у свой чарод с Польшчай, каб апрача таго разам стаяць на старожы процiў другога супольнага нашага ворага — Нямеччыны. Галасы, якія высоўваюць канцэпцыю фэдэрацыі малых дзержаў ад Балтыцкага да Чорнага мора з Польшчай, ўжо пачынаюць паяўляцца ў заграцічных газэтах. Гэтакім чынам утварыўся-б адзін супольны фронт процiў усялякіх імпэрыялістычных офэнзываў з кожнага боку.

Утварэньне гэтакага хаўруса—супольны інтэрас усіх заінтэрэсаваных у гэтым, значыцца, ня меней і Польшчы. Польшча цяпер больш за іншых мае магчымасьці правесьці гэтую ідэю ў жыцьцё. Польшча павінна цьвяроза глянуць праўдзе ў вочы і дапамагчы сваім слабейшым суседам (будучым хаўрусьнікам) стануць на ногі. Польска-украінскае паразуменьне сьведчыць аб тым, што з боку Польшчы добрыя хаценьні выяўляюцца. Праўда, гэтае паразуменьне пакуль-што носіць толькі вайсковы характэр, але яно ўжо мело вялізарнае стратэгічнае значэньне, дзеля таго што пазволіло перакінуць частку польскіх сіл на іншы фронт, а з другога боку—пазволіло ўкраінцам усімі сіламі кінуцца на ўсход і с пабедаў дайсьці да Днепра. І хаця на ўзяты Пятлюрай Кіеў працягнулася прагавітая лапа ў асобе Денікіна, ўсёж-такі, мы думаем, тое, што зроблена ў справе польска-украінскіх адносін, будзе вялікім крокам наперад, каб спыніць маскоўскія захватныя планы.

Мы верым, што хутка і ў стасунку да нашай бацькаўшчыны Польшча займе гэтакае становішчо, якое будзе адпаведаць ейным інтарэсам і будзе ісьці на сустрэчу нашым неадменным жаданьням уласнага незалежнаго дзержаўнага істнаваньня. Дзеля гэтага трэба канечна, каб у самым беларускім грамадзянстве ішла больш інтэнсыўная праца, каб выясьніць сабе гэтыя адказныя заданьні, якія у гэту хвіліну стаяць перад намі.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА І ПОЛЬШЧА.

Расейская газета „Минскій Курьер“ друкуе гутарку свайго супрацоўніка з нашым дзеячом П. Алексюком аб беларускім пытаньні і адносінах беларусаў да Польшчы. Вось што сказаў П. Алексюк:

„Галоўная політычная лінія беларускіх нацыянальных сіл—незалежнасьць Беларусі—засталася тая самая. З гэтага шляху не зыйшла ні водная беларуская політычная партыя. Аднак мы разумеем, што пры цяперашняй скомплікаванай кон‘юнктуры, пры гэтакіх варунках, калі перад намі толькі глядзі як можа ўваскрэснуць сільная Расея,—Расея, якая мусябыць будзе перэжываць пэрыёд патрыатычнага пад‘ёму,—толькі цьвёрдая апора на бліжэйшы захад, на нашых суседзяў, з якімі маем адну супольную небаспеку—усход, дае нам магчымасьць рэалізаваць праграму незалежнай Беларусі.

„Польшча — наш найбліжэйшы сусед—уваскэсла. Яе дзержава, яе армія—гэта ёсьць рэальнасьці ў жыцьці Эўропы, І мы, беларусы, дзеля супольных інтарэсаў павінны з гэтым суседам дайсьці да паразуменьня. Гістарычны маніфэст Начальніка Польскай Дзержавы Пілсудскага — гэты акт вялікай дзержаўнай мудрасьці—зрабіў пачатак нашых добрых адносін. Цяпер павадыры беларускага народа ўсе без мала перэканаліся, што трэба будаваць Беларусь у той ці інакшай сувязі з Польшчай. Скажу больш — толькі гэткая сувязь Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы і Латвіі можа нам даць асновы супакойнага дзержаўнага істнаваньня. Каліб было інакш, будучы расейска-нямецкі хаўрус зніштожа нашае нежалежнае жыцьцё. Нам з Польшчай у гэты час канечне патрэбны ўзаемная даверчывасьць і шчырасьць, мы канечне павінны становўча працаваць у гэтым непрамку, каб утварыць дужы хаўрус.

„Дазвол Галоўнага Камандуючага польскім войскам Пілсудскага, каб мы тварылі свае войска, знайшло радасны одклік паміж намі. Я веру, што хутка беларуская нацыянальная армія будзе ваеваць разам з польскай арміяй за свабоду Беларусі, і пралітая супольна кроў утворыць брацкі саюз.

„Палітычная лінія Беларусі ясная — барацьба побач з суседзямі з маскоўскай небаспекай, утварэньне ўласнай джержаўнасьці, апіраючыся на захад, і далей ў першы чарод такая ці іншая сувязь з Польскай Дзержавай, каб узмацаваць абарону і нашай, і польскай незалежнасьці. Я думаю, што не абмылюся, калі скажу, што ўсё гэта можа здзейсьніцца вельмі хутка“.

# РОДНЫЯ ПЕСЬНІ.

Гэй, родныя песьні! Вы ў суме і ў горы,
Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны,—
Для роднай зямелькі вы сьветлыя зоры,
Для роднага краю вы райскія гымны!

У вас адаб'еццa нядоля і доля,
Уздыханьня, што ходзюць с сахою, с сякерай,
І холад, і голад, няволя і воля,
І ў будучнасьць ясну надзея і вера.

На сьвеці, на белым і праўдай, і чэсьцяй
Гандлююць, збываюць за фальш і неславу;
Вы-ж песьні і сьветам маглі-бы затрэсьці,
Паклікаць к змаганьню за добрую справу.

На рукі людзкія наложуць аковы,
Край стопчуць, заграбюць чужыя народы,—
У песьнях-жа родны край, родныя словы
Жылі, і жывуць, і жыць будуць заўсёды.

Гэй, песьні, гэй звон Беларусі загнанай!
Зайграйце пацехай на родным загоне,
Што ўжо німа болей няволі, кайданаў,
І людзі ня стогнуць, як стогнуць сягоньня!

1906 г. *Янка Купала.*

# З БЕЛАРУСКІХ ГАЗЭТ.

Менскі „Звон“ у № 5 у загалоўнай стацьці справядліва піша, што беларускі рух ня мае цяпер палітычнага цэнтру, няма тэй праваМоцнай цэнтральнай арганізацыі, катораяя гаварыла-бы ад усяго беларускага грамадзянства, каторыя злучала-б у сабе палітычную чыннасьць усіх паасобных арганізацыяў і груп і зьвярнула-б на сябе увагу ўсяго беларускага народу. Усе выпадкі апошніх гадоў зьняверылі наш народ. Ен шукае сабе рады ў сабе і кале сябе, і толькі арганізацыя, утвораная ў імя яго і ў імя дабра яго бацькаўшчыны, можа стаць яго павадыром і кіраўнічым.

Далей газэта, як на гэтакі цэнтр, паказывае на Раду Народных Міністраў Бел. Нар. Рэспублікі і ўказывае ёй гэтую палітычную лінію, па якой яна павінна пайсьці:

„Яна—піша „Звон“ — павінна злучыць кале сябе палітычную работу ўсіх новаутвораных арганізацыяў і павясьці сваю працу подлуг рэяльных, відочных адносін нашых суседаў. А гісторыя нашага народу і відочныя адносіны нашых суседаў гавораць нам пра тое, што мы павінны ісьці ў контакту

**ФРАНЦІШК АЛЕХНОВІЧ.**

# НА ВЁСЦЫ.

**Ідыльлічны абразок у 2-х акт.**

**АСОБЫ:**

**Стасюк**, пастух.
**Ганулька.**
**Анелька.**
**Цыганка.**
Хлопцы і дзеўчаты.

**Рэч дзеецца у полі за вескай. Сонцо заходзіць.**

## АКТ I.

### Зьява I.

Стасюк, Анелька.

**Стасюк** (сядзіць на камені і майструе дудку. Пабач яго ляжыць на зямлі вяночак з польных кветак. За сцэнай удалёчку чутно хор, сьпеваючый народную песьню).

**Анелька** (уходзіць і, пабачыўшы Стасюка, нясмела затрымліваецца у глыбі сцэны). Стасюк!...

**Стасюк** (ня чуе і далей робіць сваю работу).

**Анелька** (галасьней). Стасюк!

**Стасюк** (аглядаецца). Што? чаго?

**Анелька** (засароміўшыся). Нічога... я так сабе...

**Стасюк** (ізноў бярэцца за работу).

**Анелька** (пасьля паўзы). Стасюк!

**Стасюк** Чаго табе?

**Анелька** Нічога, я так... Вось сонейка заходзіць, пара ужо жывёлу с поля гнаці... А хмарачкі па небе так пекна ляглі!... Здаецца, вось якійсь там вой па кані ляціць... (пауза). Адна с тваіх авечак у лесі заблудзілася... Я яе знайшла і да стада прыгнала...

**Стасюк.** Добра... Дзякуй табе. (паўза).

**Анелька.** Стасюк... я...

**Стасюк.** Чаго-ж табе яшчэ? Стасюк ды Стасюк!

**Анелька.** Стасюк! я... я... выбачай!.. Іду ужо, іду! (выбегае).

*Хор за сцэнай памалу заціхае.*

### Зьява II.

Стасюк (адзін).

**Стасюк.** Дурная, як авечка! Чаго яна хоча ад мяне? (глядзіць на неба). Узапраўды сонцо ўжо нізенька, і хутка ужо трэба будзе стада да хаты гнаць, а Ганулька сягоньня не прыйшла! Ня ведаю, што са мной!... Калі Ганульку прыходзіцца доўга чакаць,

з Польшчай. Толькі палітычная сувязь з нашай суседкай з заходу можа забяспечыць нам максімум нашых культурных і эканамічных запатрэбаваньняў. Толькі тое, што будуецца на цьвердым гістарычным грунці, мае сілу і будучыну".

Гэтая самая газэта ў іншым нумары, кажучы аб плебісцыце ў Беларусі, між інш. піша гэтак:

„Палітычная доля Літвы аднаковая з палітычнаю доляю Беларусі, нашы старонкі прадстаўляюць адну эканамічную адзінку, разьбіць каторую ня можа адважыцца ніхто, калі думае будаваць сваю работу на цьвёрдым гістарычным і эканамічным грунце. Толькі ў палітычнай і эканамічнай злучнасьці з сваім гістарычным адвечным суседам і кампаном, з Беларусьсю, Літва можа быць Літвою. Сама па сабе Літва ня мае палітычнага значэньня і ангельцы яе т о л ь к і цешаць абяцанкамі. Усю гісторыю Літвы рабілі беларусы, і толькі ў палітычнай і эканамічнай злучнасьці Літвы з Беларусьсю, яна мае значэньне. І наагул, рэальны палітык заўсюды шукае цьвёрдага, пэўнага і выпрабованага грунту. А гэты цьвёрды і выпрабованы грунт ёсьць наша слаўная гісторыя, каторая сьведчыць, што Беларусь, Літва і Польшча заўсюды складалі адну палітычную злучнасьць.

Канчаецца стацьця гэтакімі славамі:

„Плебісцыт — гэта ёсьць запытаньне да ўсяго народу пэўнага краю: за каго ён сябе лічыць і як мае будаваць сваё жыцьцё, або, лепей сказаць, я к ё н х о ч а ж ы ц ь, з кім ён мае кампанаваць, ці да каго далучыцца, або хоча жыць сам сабою, н е з а л е ж н а а д н і к о г а. Калі на плебісцыту людзі скажуць, што яны—палякі, то іх зямлю далучаць да Польшчы, а калі скажуць, што яны—расійцы, або маскалі, то іх аддадуць Расіі. Кожны з нас ведае, што „прымацкі хлеб батрацкі". Дык вось дзеля таго, каб не аддалі нас да каго небудзь у прымы, дык народ наш павінен сказаць, што ён не паляк і не маскаль, або расіец, (рускі), але Б е л а р у с. Далей ён павінен сказаць, што хоча мець сваю гаспадарку, або сваё ўласнае дзяржаўнае Гаспадарства і прасіць Польшчу, каторая мае сілу і з каторай Беларусь цэлые соткі год жыла супольна, каб яна памагала ёй адбудаваць сваё Гаспадарства, каб яно потым палітычна далучылося да яе, як р о ў н а е з р о ў н ы м і в о л ь н а е з в о л ь н ы м, подлуг жаданьня нашых продкаў.

---

здаецца мне, сэрцо выскачыць з грудзей, здаецца, што вось ураз-жа захварэю... Ганулечка мая! Прыходзь-жэ да мяне хутчэй!

(п я е):

Дзяўчыненька міла
душу мне згубіла,
як яе не бачу,
сумую дый плачу.

С цела душа выйдзе,
як яна не прыйдзе...
Ня жыць мне без Ганкі, —
без маей каханкі.

За бліск сініх вочак
с кветак дам вяночак, —
каб мяне любіла,
жыцьцё даў-бы мілай...

**Зьява III.**

Стасюк, Ганулька (убегае).

**Ганулька.** Вось і я! Што, прычэкаўся мяне? Дык ніяк не магла раней прыбегчы... Трэба было у дарогу зьбірацца... Ведаеш, бацькі пасылаюць мяне у горад на службу!

**Стасюк** (спалохаўшыся). Што ты кажэш!

**Ганулька.** Але... Ды заўтра ужо раніцай трэба ехаць. Якраз заўтра бацька едзе да мястэчка на кермаш, ён падвязе мяне на станцыю, а адтуль я ўжо адна паеду на чыгунцы да места.

**Стасюк** (як выж.) На што да места?! на якую службу?

**Ганулька.** Панам, каторыя тут маюць маёнтак, патрэбна пакаёўка, і яны хочуць узяць мяне... Вось радасьць! буду па чыстых пакоях хадзіць, на мягкіх крэслах сідзець, лёгкую работу рабіць!... Ах, Стасюк, як мне хочацца да места!... Ты дурны—ты ня ведаеш што гэта значыць... Ты ніколі там ня быў, а я раз адзін была. Дамы тамака вялікія, вялікшыя за нашы касьцёлы ды мураваныя! А людзей жэ там шмат! і усе бягуць - бягуць, кудыйсьці сьпешаюцца ажно сьмех бярэ.

**Стасюк** (сумна). А мяне пакінуць табе нічагусенькі не шкада?

**Ганулька** (не шчыра). Шкада, Стасюк, але нічога не парадзіш, калі бацькі пасылаюць мяне туды.

**Стасюк.** Я бачу, што і сама ты гэтага вельмі хочаш.

**Ганулька** (трохі злостна). Дык што? Хачу, ці не хачу—ехаць трэба.

**Стасюк.** Калі-б ты не захацела, то і не было-б трэба.

Але ня можа быць нічога горшага на сьвеце, калі народ наш, дзеля свае нацыянальнай несьвядомасьці назаве сябе расійцам і калі яго далучаць да Маскоўшчыны. Маскоўшчына—вінавайца ўсяго нашага гора, усей нашай гістарычнай пакуты. Гэта дзякуючы ёй старонка наша на працягу соткі гадоў была полем вайны для расійцаў са швэдам, французам, а потым немцам. Мы ужо ня кажам пра тое, што Масква ніколі не паважала і паважаць ня будзе нашай нацыянальнай душы, і ніколі ня будзе шанаваць нашай мовы, нашай культуры і лічыць нас за асобны народ. Вось-жа, каб не здарылося гэтага, дык няхай дазволено будзе павесьці шырокую агітацыю сярод несьвядомага беларускага народу.

І толькі тагды плебісцыт можа дать патрэбные рэзультаты"...

# БЕЛАРУСЬ.

### МЕНСК.

— **Арганізацыя Акружнага суду** на новых асновах, па прыкладу Вільні, пачнется у хуткім часе.

Уладжэньне так назыв. сельскай юстыцыі пачнецца пазьней.

Камэры міравых судзьдзяў у Менску маюць быць агчынены яшче праз 2 тыдні.

Чуецца патрэбнасьць нотарыяту у месьці.

— **Грашавы курс** на мейсцовай чорнай біржы пакуль-што во як стаіць:

За 20 руб. „кер."—3½ руб. цар.
За 250 руб. думск.—100 руб. цар.

Савецкіе грошы патроху пачалі даражэць.

— **Хлеб** апошнімі днямі у прыватных крамах прадаваўся па 4½ руб. за фунт.

— **На рынках**. С таго часу, як польская ўлада пазволіла прывазіць да Менска прадукты, падвоз спажыўнасьці на рынкі с кожным тыднем павялічываецца і разам з гэтым абніжаецца цана. Цяпер вось якія ў Менску цэны: малако—3 р. кварта, яйкі 9—10 р. за дзесятак, сьметана 12—15 р. за кварту, масло 18—20 р. за фунт. Многа падвозяць яблык і грушак, цана 1 р. 50 к.—2 р. фунт.

### АШМЯНА.

У нас у Ашмяне ёсьць гімназія. Ведама, асьвета рэч вельмі важная, калі яна будзе служыць прад усім патрэбам беднага нашага

---

**Ганулька.** А што-ж мне тутака рабіць? Усё жыцьцё тутака сядзець, марнаваць свае жыцьцё тутака?! Мне хочэцца жыць інакш.

**Стасюк.** Вось як! Значыцца, тое, што ты калісь казала, што любіш мяне — гэта няпраўда. Няпраўда, калі цяпер ты гэтак з лёгкім сэрцам кідаеш мяне на заўсёды!

**Ганулька** (не шчыра). Ды не на заўсёды! Вось прыеду тутака можа у другое летка — тагды ізноў пабачымся.

**Стасюк.** Так доўга гэтага чэкаць! Я-ж хіба тут памру с тугі па табе!... (раптам). Ганулька! і я паеду с табой да места!

**Ганулька.** Дурны ты! Што-ж ты тамака рабіць будзеш?

**Стасюк.** А буду вось жывёлу пасьвіць, як і тут.

**Ганулька.** Дурны Стасюк! Там пастухоў няма. Няма тамака ні палёў зялёных, ні гэтых горак, ні лясоў—ды сонейка інакш тамака сьвеціць...

**Стасюк** (здзівіўшыся). Няма? Дык як-жаж людзі там жывуць?

**Ганулька.** За тое іншых пекных рэчаў там ёсьць шмат. Крамы там з вялікімі-вялікімі вокнамі, а за шыбамі розныя пекныя лежаць матэры... А людзі там ходзяць усе такія выэлегантаваныя, у блiскучых боціках, на галовах капялюшы дзіўныя, а паненкі, у калеровых едвабях ды атласах.

**Стасюк.** І дзеля гэтага кідаеш ты мянэ?... (бярэ с зямлі вянок). У гэтакім вяночку на галаве ты для мяне прыгажэйшая за найпрыгажэйшую паненку у капялюшы... (кладзе ей на галаву вянок). Чакай... надзену на галованьку тваю і будзеш выгледаць як каралеўна.

**Ганулька.** Стасючок мой міленькі!.. (цалуе яго).

**Стасюк.** (абыймае яе). Так добра тут! Тут сонцо сьвеціць ясна, тутака птушкі так весела пяюць, а калі ты пры мне, здаецца, што вось-вось неба адчыніцца перэда мной,—так добра мне, так шчасьліў я!.. А ты цяпер пакінуць мяне хочэш так без жалю, назаўсёды!..

(п я е):

Так хараша, добра жылося
У весцы нам родненьнай той,
Шумелі у полі калосься,
А мы йшлі, абняўшысь, мяжой.

Цябе мо ужо не пабачу,
Калі цяпер кінеш мяне,
Ганулька, мей літасьць, я плачу,
Бо надта люблю-ж я цябе...

беларускага селянства. Значыцца у гэтай гімназіі мусяць вучыць беларускай мовы, каб беларускія дзеткі ніколі не забыліся таго, што спрад вякоў ад дзядоў сваіх атрымалі і што ім паслужыцць да іх народнага адраджэньня.

Наш дзекан кс. Гурскі, дык ужо даўно усіх нас на палякоў перарабляе. Чаго ён толькі ні рабіў, каб да гэтай мэты дайсьці! Пад яго нацiскам так шмат пісалося фальшывага з Ашмяншчыны у польскія газэты, што чытаючы іх, здаецца, што беларуская Ашмяншчына сталася чыста польскай. Але ўсё-ж такі мы селяне беларусы і ворагам беларускага народу ні паддадзёмся. Мы будзем дамагацца нашай беларускай мовы у касьцёлах, у школах, у валасьцях, будзем дамагацца ад паноў зямлі, будзем самі без панскай ласкі каваць сабе лепшу долю, як сапраўдныя гаспадары у сваей Беларусі.

(„Крыніца“ № 3).

### ВАЎКАВЫСК.

Увесь Ваўкавыскі павет чыста беларускі. Люд наш вельмі цёмны, бо ня вучаны. Па касьцёлах і царквах навучаюць у чужой мові; і людзі толькі дзеля таго слухаюць навук, што так ужо мусіць трэба, але каб там што разумелі, дык ні скажу. Праўда, ужо чуваць, што у нікаторых кутках павету, як у Лапяніцы вялікай, маладыя ксяндзы, каторыя запраўды кахаюць беларуса — селяніна, ужо пачынаюць у касьцёлі навукі гаварыць па нашаму. Добра было-б, каб гэтак рабілі усе ксяндзы і папы, бо інакш толькі сьмех бярэ: людзі разінуцца і глядзяць на ксяндза, ці папа, як на дзіва якое, што ён неяк па панску гаворэ. Але можа дасьць Бог людцы цёмныя скора апамятаюцца і зажадаюць усюды ад сваіх духоўных вучыцялёў, каб яны з іх больш ні сьмеяліся, а каб гаварылі да іх ні панскай якой мовай, але іх роднай, беларускай.

Зямля у нас благая. Усюды пяскі ды лугі, а зямліцы да сяйбы прыдатнай ня многа. Значыцца з усіх бакоў ня добра у нас жывецца тутэйшым беларусам.

Ад бальшавікоў нас Бог сьцярог. Дзеля гэтага і вялікай даражыні тут да апошніх часаў ня было, але цяпер нешта і у нас цэны пачынаюць падымацца.

(„Крыніца“).

### ГОРАДНЯ.

За той час, калі у нас былі немцы, наша места блізка нічым ня рожнілася ад звы-

---

**Ганулька** (пяе):

Німашака рады па гэта,
Калі так казалі бацькі;
Бог дасьць на другое мо лета
Пабачыш мяне ізноў ты.

І мне баліць сэрцо так сама,
Павер-жа, саколік ты мой,
Што-ж зробіш, вось бацька і мама
Казалі растацца с табой.

(гаворэ): Будзь супакойны, Стасюк! Я буду памятаць аб табе і буду заўсёды цябе любіць... Але трэба ўжо сьпешацца, у хаце чэкаюць мяне. Бывай здароў! (цалуе яго). А вяночак я засушу і схаваю у куфэрку і, глянуўшы на яго, буду ўспамінаць цябе.

**Стасюк** (с прозьбай у голасе). Памятай аба мне!

**Ганулька**. Буду, буду заўсёды памятаць! (падаюць сабе рукі і разам пяюць).

Клянусь табе на захад сонца,
Клянусь табе шумам палёў,
Любіць цябе буду да гробу,
Сустрэчы чакаючы ізноў.

Памятаць цябе я буду
Заўсёды праз усё жыцьцё,
Ніколі цябе не забуду,
Ты яснае сонцо маё.

**Ганулька** (гаворэ). Ну бывай здароў... Бягу ужо! (скора выбегае).

### Зьява IV.

Стасюк (адзін).

**Стасюк**. Ганулька! Чэкай! Яшчэ хвіліну!... (паўза). Пайшла! Пайшла і можа ўжо ня вернецца! Ніколі!.. можа ўжо ніколі... О, якое-ж гэта страшное слова! (сядае на камені). Ганулька! Як-жаж я цяпер жыць буду без цябе!.. (пачынае плакаць).

### Зьява V.

Стасюк, хлопцы і дзеучаты.

За сцэнай чуваць сьпеў хору, пасьля праходзяць праз сцэну, сьпеваючы, хлопцы і дзеўчаты с косамі і граблямі.

**1-ая дзяўчына** (да іншых). О! гляньце! Стасюк плача.

**1-ы хлапец**. Стасюк! Чаго зажурыўся?

**2-і хлапец**. Стасюк! пара жывёлу да хаты гнаці!

**2-ая дзяўчына** (жартуючы). Стасюк! Авечку воўк панес! Ха-ха-ха!.. (Усе са сьмехам выходзяць і пяюць. Песьня памалу заціхае).

чайнага мястэчка. Цяпер яно ужо пакрыху прыходзіць да парадку.

Людзі у ваколіцах Горадні усюды гавораць па беларуску. А навет тыя ўсе, што жывуць у месьці і што ўжо дзеля чорнай вопраткі выракліся сваёй роднай мовы, гавораць вельмі кепска па польску і ужываюць многа слоў беларускіх; гэта знача, што тут польшчына толькі палітура, што, як шыла ні хавай у мяшок, яно заўсёды вылязе; гэта знача ў канцы, што ўсё беларускае мусіць беларускім астацца.

Беларускія месты, якія ў мінулым месяцы польскае войска аслабаніло ад бальшавіцкага панаваньня.



Бабруйск. Беларуская вуліца.



Слуцак.

**З ь я в а VI.**

Стасюк, Анелька.

**Анелька** (уходзіць, спагадліва). Стасюк! Даражэньні мой! Не плач! не плач!..

**Стасюк** (праз сьлёзы). Ідзі! Ідзі, Анелька, да хаты... Кінь мяне.

**Анелька**. Стасюк! Я табе памагу сагнаць жывёлу с поля... Добра?

**Стасюк.** Чаму ты такая... добрая для мяне Анелька?

**Анелька**. Бо я... бо я... (пачынае плакаць).

**Стасюк**. Чаго-ж ты? Кажы.

**Анелька** (закрываючы вочы). Бо я... Калі я саромлюся сказаць...

**Стасюк** (глядзіць на яе зьдзівіушыся дый нічога не разумеючы).

**Заслона.**

**АКТ II.**

Дэкарацыя такая-ж самая, як у 1-м акце. Праз нейкі час на сцэне нікога німашака. Чутно ігру на дудцы. Пасьля ўходзіць **Стасюк** з дудкай у руцэ.

**Стасюк** (адзін).

**Стасюк** (сэнтымэнтальна). Вось ужо год прайшоў, другое прыйшло летка!... Так сама сонейка сьвеціць на захадзі, як тагды... Вось тое самае мейсцо, дзе ў апошні разок бачыў яе, дзе вяночак с кветак сплёў... Вось год прайшоў, а яе як німа, так німа. Дзе яна? Што думае? Ці часта мяне успамінае?...

(п я е):

Да цябе ўздыхаю,
за табой сумую,
Калі-ж я пабачў
Ганку дарагую!

Зацьвітаюць кветкі,
так як і калісьці,
а душэнька сумна,
як дрэва бяз лісьці.

Сонцо сьвеціць ясна,
як калісь сьвеціла,—
птушачкі пытаюць,
дзе-жа твая міла?

Птушачкі сьпіваюць,
як калісь пеялі...
Прадала дзяўчына
сэрцо за каралі!...

(сядае на камені і пачынае іграць на дудцы).

*(Канец будзе).*

# КРОНІКА.

### ВУЧЫЦЯЛЬСКІЕ КУРСЫ У ВІЛЬНІ.

1 верасьня закончыліся Беларускія Вучыцельскія курсы ў Вільні. Усяго было запісаўшыхся на курсы 154 асобы.

### ЦЭНТРАЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ ВУЧЫЦЯЛЬСКІ САЮЗ.

24 жніўня быў агульны сход беларускіх вучыцелёў, на якім заснаваўся «Беларускі Цэнтральны Вучыцяльскі Саюз».

## Аб усім па троху.

### ЧАМУ МЫ ПІШАМ МЕНСК, А НЯ МІНСК?

Менск — места беларускае, а дзеля таго, каб даведацца, як яно завецца, трэба запытаць у беларускаго народу. А беларускі народ скрозь заве яго *Менском*, а ня *Мінском*, і толькае маладзейшае пакаленьне праз школу, або чуючы ад паноў і чыноўнікаў, налажылося зваць яго *Мінском*. Дзеля таго каб праверыць, ці не памыляецца „просты“ народ, завучы сэрцо свайго краю *Менскам*, дык трэба пераглядзіць даўнейшыя гістарычныя дакумэнты, пісаныя, як цяпер кажуць цёмныя, неадукованыя, „абразованыя“ людзі, у простай беларускай мове. І вось дакумэнты тыя сьведчаць, што продкі нашы, будучы вучонымі, называлі свой горад *Менкам*, *Менескам*, што знача: места, дзе людзі мяняліся таварамі, або гандлявалі.

Гэтак сама беларускіе летапісы паказываюць, што Вільню трэба называць *Вільня*, а ня *Вільно*, або *Вільна*. Гэта чужакі перакручваюць нашыя беларускія назовы, як расійцы, напрыклад, перакруцілі старое славянское слово *далонь* і кажуць *ладонь*, або *тарэлка*, заміж—*талерка* (ад слова—талер, круглы).

(«Звон»).

## Адказы ад Рэдакцыі.

**Я. Купале.** Рукапісы просім прысылаць праз почту, а не праз пасланцоў, ато можа здарыцца ізноў гэтакае самае непаразуменьне, якое ўжо было з адным з Вашых вершаў. 10. IX. мы выслалі Вам пісульку, у якой перэпрашаем за тое, што здарылося.

**Рэдакцыі „Звон“.** Просім прысылаць Вашу газэту не на адрэс друкарні, але Рэдакцыі: Бакшта 11.

---




**Рэдакцыя і Адміністрацыя**: Бакшта 11. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Военнаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Квашэльная 23.